# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 30 (1013) ГОД XX 27 ЛІПЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі:**

**Праца — гэта мая жыццёвая функцыя. Калі я не працую, дык не адчуваю ў сябе ніякага жыцця.**

*Жуль Верн*

**Пазнаўшы святло, вы ўжо не захочаце жыць у цемры.**

*В. Верасаеў*

**Гутарыць з пісьменнікамі іншых стагоддзяў — амаль тое ж, што падарожнічаць.**

*Р. Дэкарт*




*І я між небам*
*і зямлёй,*
*Як ты — сабрат мой,*
*жаваранак мой.*
*Вісім з табой*
*штодня над каласамі*
*І над людскімі галасамі...*
*Пяе душа*
*над родным полем,*
*А гнёзды нашыя —*
*у жыце.*
*І вы нам крылы не вяжыце,*
*Вятры шалёныя,*
*ніколі...*

**Раман Тармола**



*Даспела жыта. Фота В. Рудчыка.*

# ЗА МЁДАМ У ДЗЯДЗЬКІ ІВАНА

Празрысты, свежы, духмяны мёд тоненькай, залацістай істужкай пераліваўся ў глыбокую міску, запаўняючы яе аж па край.

— Каштуйце, калі ласка, я не шкадую, — заахвочваў нас дзядзька **Іван Сачко** з вёскі Крывяцічы ў Арлянскай гміне. Каля міскі з мёдам апынуўся яшчэ свежы дамашні хлеб. Што больш трэба для шчасця!

Першы ўзяўся за лыжку кіраўнік сельскагаспадарчай службы ў Орлі Уладзімір Кубаеўскі. Гэта ён мяне завёў на мёд да дзядзькі Івана. Вось і мне духмяная асалода запоўніла рот і язык прыліп да дзяснаў. Запахла ўсімі кветкамі палёў і лугоў.

— Гэта рапсавы мёд. Сёлета рапс спрыяў пчолам. А калі б вы прыехаді да нас яшчэ раз, тыдні праз тры, у другой палавіне ліпеня, тады пакаштавалі б ліпавага мёду. Ён самы выдатны. Найлепшы на ўсялякія хваробы.

Дзядзька Іван займаецца пчалярствам ад юнацтва, ужо звыш 60 год. Навучыўся гэтаму ад свойго дзеда Якуба, які ў суседняй вёсцы Мора трымаў вялікую пасеку.

— А вуллі ў нас былі тады не такія, як цяпер, але з броўнаў, з калодак, — расказвае пастарэлы ўжо пчаляр. — Дык мы іх і называлі проста калодкамі. Былі гэта пні тоўстых соснаў, выдаўбленыя ў сярэдзіне, дзе разводзіліся пчолкі. Наш дзядуля меў 50 такіх калодак, запоўненых гэтымі працавітымі насякомымі.

Гаспадар ведае, што мёду многа не наясі. Першапачатковая асалода ўступае месца вельмі спецыфічнай горычы, характэрнай для сапраўднага, чыстага мёду, а затым хутка адчуваецца сытасць. Дык разам з аграномам дзякуем за пачастунак і выходзім на панадворак. За высокім плотам, у прасторным садочку роўнымі радамі стаяць калярова размаляваныя вуллі.

— У мяне іх тут 72, — кажа гаспадар і дадае з усмешкай: — Калі не верыце, дык палічыце.

Верым яму на слова, бо не хапае нам адвагі, каб з адкрытым тварам і з голымі рукамі заглыбіцца ў гэтае каралеўства, узброенае сотнямі тысяч пякучых джалаў. Хопіць толькі паслухаць іх аднастайнае грознае бзычанне, каб адразу насцярожыцца. Вось нейкая ваяўнічая пчолка нечакана заблыталася ў маіх валасах, а другая праімчалася каля самага вуха. Гляджу, а тут і аграном ужо адмахваецца рукамі. Толькі адзін пчаляр стаіць, бы на пасту ля маўзалея, ды яшчэ нам раіць паводзіць сябе спакойна. Я, аднак, пакідаю думку, каб сфатаграфаваць дзядзьку Івана сярод яго пчалінага каралеўства.

— Пчолкі не любяць гарадскога паху, — кажа дзядзька Іван. — Ён для іх чужы. А ўсё, што чужое, яны інстынктоўна атакуюць. Такая ўжо ў іх нату-

**(Працяг на стар. 4)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



# ЧА-РОМ-ХА

### ГМІННЫЯ ЦЭНТРЫ

Кожная гміна мае свае спецыфічныя справы, праблемы. Гміна ў **Чаромсе** і яе насельніцтва адрозніваецца ад усіх іншых гмін тым, што тут амаль няма такіх сем'яў, каб хто-небудзь не працаваў на чаромхаўскіх чыгуначных прадпрыемствах, альбо беспасрэдна ў абслугоўванні чыгункі. У кожнай вёсцы гэтага раёна жывуць сяляне-рабочыя. І, як сцвярджаюць субяседнікі — начальнік гміны Сяргей Сац і сакратар гміннага камітэта ПАРП, старшыня гміннай рады нарадовай Казімір Краўчук, амаль усе гэтыя сяляне-рабочыя добра выконваюць свае абавязкі на службе і адначасова не занядбоўваюць сваіх сялянскіх спраў, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю. А некаторыя з іх з'яўляюцца не толькі ўзорнымі рабочымі і служачымі, але таксама і ўзорнымі сялянамі.

### ПЕРАДАВЫЯ ЛЮДЗІ

Да іх, між іншым, належыць дзяжурны руху Васіль Астапкевіч з Чаромхі-вёскі. Ён і добры гаспадар, дабіўся звання майстра сельскагаспадарчай прадукцыі. У 1972 г. заваяваў першае месца ў агульнапольскай алімпіядзе сельскагаспадарчых ведаў. У вёсцы Беразішча вельмі добрымі гаспадарамі з'яўляюцца браты Міхал, Мікалай і Уладзімір Маркевічы. Два з іх — майстры сельскагаспадарчай прадукцыі. У гэтай жа вёсцы на высокім узроўні гаспадарыць Міхась Русін. Ён начытаны чалавек. У яго такія часопісы, як „Культура", „Палітыка", не гаворачы ўжо аб сельскагаспадарчых, з'яўляюцца штодзённай прэсай. У Ставішчах вельмі добрыя сельскагаспадарчыя вынікі маюць Антон Шульжык, солтыс, і Вітальд Турык, у Кузаве — Мікалай Маркевіч, у Вульцы Тэрахоўскай — Васіль Зінчук і Дзімітр Назарук, а ў Пагулянцы — Уладзіслаў Сабескі. Ёсць яшчэ шмат іншых гаспадароў, якія даюць прыклад, як можна апрацоўваць зямлю і развіваюць жывёлагадоўлю, адначасова працуючы на чыгунцы.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ КААПЕРАТЫЎ

У Чаромхаўскай гміне ёсць адзін сельскагаспадарчы кааператыў, які знаходзіцца ў вёсцы Зубачы. У апошнія два гады зрабіў ён значны крок наперад. Звяртае найбольш увагі на жывёлагадоўлю. Цяпер будуецца там коштам 7,5 мільёнаў злотых букацярня, у якой у будучыні прадбачана гадоўля 1000 штук маладняка. Чатырох падставовых збожжавых культур у сельскагаспадарчым годзе 1973/74 спулдзельня сабрала па 34 цэнтнеры з аднаго гектара. Гэта ўжо дасягненні, якія лічацца.

### ЖНІЎНАЯ КАМПАНІЯ

Гміннае ўпраўленне ў Чаромсе на чале са сваім клапатлівым начальнікам Сяргеем Сацам жыве цяпер жніўнай кампаніяй. Ужо даўно апрацаваны гарманаграмы жніўных работ. Машыны сельгасгуртkoў, сельскагаспадарчага кааператыва і аднаасобнікаў маюць скасіць 1387 гектараў збожжа. У жніўных гарманаграмах адзначана, які трактар і трактарыст будзе працаваць у данай вёсцы. Да кожнай вёскі з працаўнікоў упраўлення гміны і ў першую чаргу з працаўнікоў сельскагаспадарчай службы прыдзелены людзі, якія сочаць за спраўнасцю ходу жніўнай кампаніі. Упраўленне гміны назначыла дзяжурствы ад 8 да 20 гадзіны, каб, калі трэба, служыць тэлефонам, парадай, а нават і загадам. Адным словам, усё тут зроблена так, каб жніво прайшло спраўна. Усё прадбачана: і дапамога старым і адзінокім, і тэхнічная хуткая дапамога, і супрацоўніцтва з сельскагаспадарчымі кааператывамі, сельгасгурткамі і паасобнымі гаспадарамі, якія маюць уласныя машыны.

### ГРАМАДСКАЯ ПРАЦА

Сяргей Сац, начальнік гміннага ўпраўлення, з задавальненнем сцвярджае, што сярод усяго мясцовага насельніцтва выпрацавалася пачуццё патрэбы карыснай працы для свайго асяроддзя. І таму вельмі многа зроблена і робіцца тут грамадскім чынам. Прывядзем некалькі прыкладаў. Грамадскім чынам будуецца 10-кіламетравы адрэзак дарогі ад Зубачоў да асады Чаромха. Ужо зроблена 8 км. Грамадскім чынам будуецца Каляёвая вуліца ў асадзе Чаромха. Адрамантавана тут вуліца Дзюбуа. У мінулым годзе аддадзена ў карыстанне прадшколле, якое таксама пабудавана грамадскім чынам. Шмат грамадскай працы ўкладваецца пры будаўніцтве мясцовага пункта аховы здароўя, жылога дома для настаўнікаў, а таксама пры іншых аб'ектах.

**(Працяг на стар. 3)**



*Беласток. Фота Я. Цялушэцкага.*

ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

# Толькі супольна дасягнем мэты

Ад нейкага часу на старонках „Нівы“ вядзецца дыскусія аб навучанні ў нас беларускай мове. Сёння і я хачу сказаць некалькі слоў на гэту тэму.

У Чаромхаўскай гміне пражывае беларускае насельніцтва. Людзі наогул жывуць тут нядрэнна. Спазналі радасць жыцця, забылі пра сваю нядолю і нястачы. Народная ўлада дала нам, беларусам, магчымасць працы, права на адукацыю. Дзякуючы партыі і народнай уладзе, можам карыстацца роднай мовай, вучыць дзяцей у беларускіх школах. Аднак з гэтага апошняга дабрадзейства не хочам мы карыстацца, а проста адносімся абыякава да яго, а нават з агідай (трапляюцца і такія выпадкі). Наш брат беларус пачаў забывацца, хто ён такі. Пачаў саромецца сваёй нацыянальнасці, свайго імя, а нават і прозвішча. І таму вельмі часта нашы Ніны завуцца Янінамі, а Веры клічуцца Вэранікамі. Дзеці не хочуць вучыцца роднай мове, а бацькі і не намагаюцца вырашыць гэтай праблемы. Занікае і наша цудоўная беларуская культура. Не чуваць ужо старадаўніх „вяснушак“ і „агулек“ (песні, якія вечарамі спявалі жанчыны). Вельмі рэдка трапляецца сустрэць прыгожы, старадаўні, вясельны абрад. Ці не варта выцягнуць з сваіх, рэгіянальных шкатулак усё тое, што стварылі нашы бацькі і дзеды? Ёсць мясцовасці, у якіх людзі зберагаюць сваю мову, сваю культуру. Яшчэ дагэтуль стаіць мне перад вачыма чароўны дакументальны фільм, пастаўлены Мікалаем Гайдуком і Варшаўскай кінастудыяй дакументальных фільмаў, „Беларускае вяселле“.

У чаромхаўскай зборнай школе будзе вучыцца ў гэтым годзе 610 вучняў. Амаль 60% гэта дзеці беларускай нацыянальнасці. Аднак некалькі год таму назад спынілася тут навучанне беларускай мове. Чаму? Вось што гаворыць дырэктар школы гр. Мікалай Міхалюк:

— У Чаромсе працую тры гады. Перад пачаткам кожнага навучальнага года праводзім з бацькамі размовы, ці дзіця будзе вучыцца беларускай мове. Усе адмаўляюцца.

— Якія прычыны ўказваюць? — пытаюся.

— У асноўным гэта тры прычыны:

1) лішняе перамучванне вучня навукай,

2) перашкаджанне ў навучанні польскай мове,

3) малая патрэба беларускай мовы (без яе можна абыйсціся, карыстаючыся мовай сваёй мясцовасці).

— А які ваш пункт гледжання як педагога?

— На маю думку, — гаворыць дырэктар школы, — галоўнай прычынай у гэтай справе з'яўляецца абыякавасць бацькоў. Калі прадмет быў абавязваючы ў школе, вучань не меў выбару. Ён вымушаны быў хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Цяпер справа прадстаўляецца зусім інакш. Хопіць бацькам заявіць настаўніку (нават вусна), што дзіця не хоча вучыцца беларускай мове, і сын ці дачушка пазбаўляецца клопату лішняй навукі. І бацькі ідуць дзецям на руку.

— Няпраўда таксама і тое, — працягвае гр. Міхалюк, — што беларуская мова перашкаджае ў навучанні польскай мове. Калі вучань, закончыўшы пачатковую школу, не атрымаў месца ў школах, у якіх меркаваў вучыцца, і вымушаны канчаткова пайсці ў беларускі агульнаадукацыйны ліцэй, дык ідзе і вучыцца, хаця дагэтуль не карыстаўся беларускай мовай. Праз чатыры гады ўжо дабіваецца поспехаў. Як бачым, прычына, указаная бацькамі, не апраўдвае сябе. І апошняя справа, — гаворыць мой субяседнік, — не хапае нам сапраўднага педагога. Ёсць, праўда, у нашай школе тры настаўнікі, якія закончылі беларускі ліцэй. Аднак яны не намагаюцца вырашаць праблемы. Каб быў настаўнік беларускай мовы, ён праяўляў бы большае зацікаўленне гэтай справай.

Нічога тут не трэба дадаваць. Усё зразумела. Як гаворыць прымаўка, так і праўда. Цяпер яйцо мудрэйшае за курыцу. Настаў час, што не бацькі кіруюць дзецьмі, а дзіця кіруе бацькамі. Моладзь дасягнула мэты. Што хоча, тое і робіць. Хоча вучыцца, дык вучыцца, а не хоча, дык і вяроўкай не зацягнеш. Ніхто не мае права нічога сказаць такому падлетку, ні настаўнік у школе, ні бацькі ў хаце (як суровы бацька, дык яшчэ крыху яго баіцца).

Мне здаецца, што Міністэрства асветы павінна ўвесці зноў беларускую мову як прадмет навучання, абавязваючы ў тых школах, дзе вучацца дзеці беларускай нацыянальнасці. Вучань не павінен мець свабоднага, як дагэтуль, выбару. Закон ёсць законам. Ён павінен толькі вучыцца.

І апошняя справа. Тое, што многа грамадзян беларускай нацыянальнасці абыякава адносіцца да справы навучання іх дзяцей роднай мове, што занікае народная культура, вінаваты мы самі. Не без віны астаецца і БГКТ. Ёсць жа адказныя працаўнікі за гэту справу. Трэба часцей трапляць да людзей, размаўляць з імі. На так званыя „цяжкія“ асяроддзі звярнуць асаблівую ўвагу. Думаю, што і там знойдуцца людзі, якім залежыць на тым, каб беларус быў беларусам. У „цяжкіх“ асяроддзях трэба часцей паказваць добрыя беларускія калектывы, арганізоўваць сустрэчы з цікавымі людзьмі, арганізоўваць фэстыны. Дзіўуюся, што дагэтуль не арганізоўваўся ў Чаромсе беларускі фэстын. А гэта даю пад развагу Галоўнага праўлення.

У красавіку я ўдзельнічаў у з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“. Майму здзіўленню не было канца, калі ўсе мы сустрэліся ў святліцы БГКТ. Некалькі дзесяткаў чалавек — гэта ж авангард! І адкуль толькі не прыехалі нашы карэспандэнты? Амаль з усёй Беласточчыны. Чаму не выкарыстаць гэтых людзей для дабра супольнай справы? Мне здаецца, што ніхто не адмовіцца.

У заканчэнні просьба да сяброў карэспандэнтаў, да актывістаў БГКТ, да ўсіх тых, каму блізкая і дарагая супольная справа. Наладзьце супрацоўніцтва з адказнымі працаўнікамі БГКТ, памажыце зберагчы тое. чаго мы дабіліся за 20 год сваёй дзейнасці! Мо супольнымі сіламі нам гэта ўдасца.

**Ул. Сідарук**

*КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА*



# БЕЛАРУСКІ СПОРТ



Беларусь па праву можна назваць алімпійскай рэспублікай. Калі ў Алімпійскіх гульнях 1952 года ўдзел беларускіх спартсменаў быў вельмі скромным, дык на алімпіядзе ў Мельбурне лік беларусаў, удзельнічаючых у савецкай камандзе, значна ўзрос. Міхаіл Крываносаў заваяваў сярэбраны медаль у спаборніцтвах кідальнікаў молата. У Рыме беларускія вясляры Гейштар і Макарэнка, а таксама барэц Караваеў заваявалі залатыя медалі.

Ад гульняў да гульняў расце лік прызёраў. Калі ў Токіо „золата“ вянчала поспех гімнасткі Галены Валчэцкай і барца Аляксандра Мядзведзя, дык у Мехіка беларускімі спартсменамі было ўжо заваявана адзінаццаць залатых, сярэбраных і бронзавых медаляў.

Удачна выступілі беларусы ў Мюнхене. Пяць залатых, два сярэбраныя, два бронзавыя — столькі алімпійскіх медаляў прывезлі з Мюнхена гімнасткі Беларусі Вольга Корбут, Тамара Лазаковіч і Антаніна Кошаль. Пасля першага выступлення Вольгі Корбут кожнае з'яўленне маленькай беларускі выклікала бурныя воплескі гледачоў. Гімнастка з Гродна стала любіміцай мюнхенцаў. Не было ніводнай газеты ў ФРГ, якая б не змясціла партрэт Вольгі Корбут. „Кожнае яе выступленне, — пісала „Абендцайтунг“, — суправаджалася нябачанымі дагэтуль авацыямі і воклічамі захаплення“. Да медаляў беларускіх гімнастак трэба дадаць яшчэ два сярэбраныя медалі, заваяваныя беларускімі гімнастамі Аляксандрам Малеевым і Уладзімірам Шчукіным у камандным першынстве.

Калі Вольга Корбут упершыню чула на Алімпійскіх гульнях гімн сваёй краіны, выкананы ў гонар яе перамогі, то для Аляксандра Мядзведзя гэта была трэцяя Алімпіяда. Тры разы запар — у Токіо, Мехіка і Мюнхене ўзнімаўся чырвоны сцяг з сярпом і молатам, абвяшчаючы перамогу праслаўленага беларускага барца. Сяміразовы чэмпіён свету, трохразовы алімпійскі чэмпіён — такога выніку яшчэ не дабіваўся ніводзін барэц. Калі прагучаў фінальны гонг, непераможны Мядзведзь стаў на калені перад барцоўскім дыванам і пацалаваў яго. І ўсе, хто бачыў гэта, зразумелі: барэц развітваецца са спортам.

Яшчэ адна беларуская спартсменка пасля перамогі на XX Алімпійскіх гульнях развіталася з вялікім спортам. Гэта была Таццяна Самусенка. За плячыма яе выдатны спартыўны шлях і вышэйшыя спартыўныя тытулы. Удзельніца чатырох Алімпіяд. У Рыме было золата, у Токіо серабро, у Мехіка золата. У Мюнхене за каманду СССР выступалі дзве мінчанкі — Таццяна Самусенка і Галена Новікава. Савецкія спартсменкі перамаглі.

Міжнародны аўтарытэт савецкіх фехтавальшчыкаў высокі, але на Алімпійскіх гульнях савецкім шаблістам яшчэ ні разу не ўдавалася заваяваць залаты медаль у асабістым турніры. Гэта зрабіў у Мюнхене мінчанін Віктар Сідзяк.

Для савецкіх баскетбалістаў Гульні ў Мюнхене былі пятымі. Але дагэтуль вышэйшая ступенька заставалася для іх недасягальнай. У Мюнхене ў драматычным фінальным матчы асабліва выдзяліўся беларускі баскетбаліст Іван Ядэшка. На апошняй мінуце наперад выходзяць амерыканцы. 50:49, а да канца тры секунды. Зрабіць што-небудзь за такі тэрмін, а дакладней закінуць мяч і атрымаць пераможныя два ачкі, азначала выкарыстаць адзін з тысячы. Двайм даручаецца рэалізаваць гэты фантастычны шанц. Іван Ядэшка ад свайго шчыта праз усю пляцоўку дакладна пасылае мяч у рукі Аляксандра Бялова, а той паспявае зрабіць падманны рух (яго сцерагуць два высачэзныя амерыканцы) і кідае мяч у сетку.

(Працяг на стар. 4)



*Мінскі палац спорту, дзе праходзяць рэспубліканскія, усесаюзныя, еўрапейскія чэмпіянаты, а таксама міжнародныя сустрэчы па розных відах спорту.*

*Фота В. Казлова.*




**Sobota 26.VII.** 15.10 Pr. dnia. 15.15 Pr. I prop. 15.30 Dziennik. 15.40 Obiektyw. 16.00 In., Tow, Prop. 16.15 Czas Dunaju. 16.45 Piosenka dla Ciebie. 17.30 Lekt. Pegaza. 17.45 Kronika Spartakiady Młodzieży. 18.00 Za kierownicą. 18.30 Żywioły. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Śniegi Kilimandżaro — film fab. USA. 22.05 Dziennik. 22.25 Sport. 22.40 Musicale na Targówku — pr. rozr.

**Niedziela 27.VII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Tel. Dziewcząt i Chłopców: Pierwsza podróż — film fab. NRD. 10.30 Antena. 10.50 Jeździec bez głowy — film fab. radz. 12.25 Rep. z Fest. Polonijnych Zesp. Art. 13.10 Dziennik. 13.30 Tydzień. 14.00 Radar. 14.15 BANK MIAST (I) — SZCZAWNICA-WISŁA. 15.45 Los. Toto-Lotka. 16.00 Pojedynek — cz. II. KRYSTYNA SIENKIEWICZ — GRAŻYNA HASE. 16.55 Refl. ob. 17.10 Sport. 18.10 Tele-Echo. 19.20 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film. ser. fr. 21.25 BANK MIAST (II). 22.05 Róże Montreux — pr. rozr. 22.20 Sport.

**Poniedziałek 28.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.30 TELEFERIE. 18.45 Mam pomysł. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: Ksawery Godebski — „Miłość i próżność". 21.10 Czardasze śpiewa Ryszard Tarasewicz. 21.40 Rep. z kabaretu „Piwnica" w Krakowie. 22.00 Dziennik. 22.15 Sport.

**Wtorek 29.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i małym ekranie. 17.25 Lato z pomysłem. 17.30 Nie tylko dla pań. 17.55 Lato z pomysłem. 18.00 Fakty, Op., Hip. 18.15 Przyp., radz. 18.30 Lato z pomysłem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Lato z pomysłem. 20.25 Rancho w dolinie — film ser. USA. 21.15 Ekran i życie. 22.15 Dziennik. 22.35 Sport.

**Środa 30.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Los. Małego Lotka. 17.10 Zdrajca — film ser. węg. (Miasto w czerni). 18.00 Patrol. 18.25 Nasze dzieci — rep. film. 18.50 XYZ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kino Interesujących Filmów: Kolekcjoner — film fab. ang. 22.15 Interstudio. 23.00 Dziennik. 23.15 Sport. 23.25 Inf., Tow., Prop.

**Czwartek 31.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Inf. turystyczny. 17.30 Piosenki warszawskie. 17.55 TELEFERIE. 18.45 Czym żyje świat. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Naoczny świadek — film fab. ang. 21.25 Pegaz. 22.10 Spotkanie z Biserem Kirowem. 22.40 Dziennik. 23.00 Sport.

**Piątek 1.VIII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Tuzin—teleturniej. 17.35 Mała Encyklopedia Zwierząt — film ser. fr. 18.00 Twarze teatru — HALINA GRYGLASZEWSKA. 18.35 Polska — Konto 75. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Naga nad miastem. 20.55 Panorama. 21.40 Film fabularny. 23.00 Dziennik. 23.20 Sport.




**Piątek 25.VII.** — 8.00 Film fab. 9.15 Koncert. 17.45 Film fab. 19.30 Złote nuty. 20.25 Koncert. 20.45 Sport.

**Sobota 26.VII** — 8.00 Film fab. 10.45 Koncert. 13.00 Film fab. 15.00 W świecie zwierząt. 16.15 Filmy anim. 16.45 Pr. muz. 17.30 Film fab. 19.30 Teatr miniatur. 20.30 Koncert laureatów z Zielonej Góry.

**Niedziela 27.VII.** — 11.30 Film fab. 14.50 Klub film. 15.50 Film anim. 17.05 Pr. rozr. z Ostankino. 19.30 Spektakl.




**Białowieża** Stara panna — fr. 29—30.VII. Nie ma mocnych — pol. 31.VII—1.VIII.

**Czyże** Swieć moja gwiazdo — fr. Próba terroru — USA 30.VII—3.VIII.

**Dubicze Cerkiewne** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. 30.VII—3.VIII.

**Kleszczele** Operacja Y — radz. 29—30.VII. Dwa żebra Adama — pol. 31.VII—1.VIII. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 2—3.VIII.

**Michałowo** Kiedy legendy umierają — USA 29—30.VII.

**Milejczyce** Milion za Laurę — pol. 29—30.VII. Godzina za godziną — pol. 31.VII—1.VIII. Michaś przywołuje świat do porządku— RFN 2—3.VIII.

**Narew** Opowieść w czerwieni — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 30.VII—3.VIII.

**Narewka** Zuzanna i zaczarowany pierścień — NRD. Dramat namiętności — szwedz. 30.VII—3.VIII.

**Nurzec** Giuseppe w Warszawie — pol. 29.VII—30.VII. Brylanty pani Zuzy — pol. 31.VII—1.VIII.

**Orla** Gra złudzień — wł. Po drugiej stronie słońca — ang. 30.VII—3.VIII.

**Rajsk** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. Małżonkowie roku II-go — radz. 30.VII—3.VIII.

B.Z.Graf. zam. 1805 P-1




## КНІЖКА ПРА ГЕНЕРАЛА ВАШКЕВІЧА І ЯГО ЗЕМЛЯКОЎ

*„Дзёрзкі, гатовы адразу рэагаваць на ўсё, што патрабавала нейкага ўмяшання; непасрэдны аж занадта ў адносінах з падначаленымі; карыстаўся звычайна салдацкай сакавітай мовай; з'яўляўся тыпам афіцэра, які школу практыкі праходзіў у цвёрдых змаганнях у час дзвюх сусветных войнаў; лепш адчуваў сябе на агнявой лініі сярод салдат, чымсьці ў штабе“.*

Так характарызуе нашага земляка з Белавежы, Героя Савецкага Саюза, генерала **Аляксандра Вашкевіча**, Вальдэмар Катовіч — аўтар кніжкі *„У лясах Саксоніі“*, якая ў выдавецтве МОН паявілася ў гэтым годзе ў папулярнай серыі „Жоўтага тыгра“.

Аляксандр Вашкевіч быў ужо палкоўнікам Савецкай Арміі, калі восенню 1944 года накіравалі яго ў Польскае Войска для фарміроўкі і абучэння пятай дывізіі другой арміі ВП, якой камандаваў легендарны палкаводзец Караль Свярчэўскі. Іх лёс быў падобны. Абодва змагаліся за перамогу рэвалюцыі ў царскай Расіі, абодва заваявалі прызнанне ў радах Чырвонай Арміі, абодва перайшлі пасля на службу сваёй даўнейшай айчыны і за новую народную Польшчу аддалі жыццё.

Генерал брыгады Аляксандр Вашкевіч загінуў у драматычных абставінах пад мясцовасцю Таўэр у красавіку 1945 года, калі II Армія Войска Польскага даводзіла да канца лужыцкую баявую аперацыю. Салдаты знайшлі цела генерала без мундзіра, з пакалечаным тварам, з разбітай галавой. 11 мая 1945 года спецыяльная лекарская камісія ўстанавіла, што быў ён найперш паранены ў баі, а затым трапіў у рукі гітлераўцаў і яны яго зверскі замучылі.

Аўтар кніжкі „У лясах Саксоніі“ асабіста ведаў генерала Вашкевіча, сустракаў яго сярод салдат і на полі боя. Быў ён сам салдатам II арміі ВП. Гэта наш зямляк з Беласточчыны. На аснове ўласных успамінаў і расказаў даўнейшых падначаленых і супрацоўнікаў генерала Вашкевіча, а таксама на аснове ўспамінаў палкоўніка Міхала Касеі, які быў ад'ютантам генерала Свярчэўскага — Вальдэмар Катовіч перадае нам вобраз Аляксандра Вашкевіча як непаседнага палкаводца, у якога заўсёды знаходзілася свежая энергія і гатоўнасць да неадкладнага дзеяння. Не заўсёды гэтае дзеянне было трапнае і паспяховае, аднак заўсёды шчырае, сапраўднае. І менавіта яно найбольш праўдзіва характарызуе генерала Вашкевіча як чалавека і палкаводца. Ён ніколі не ўзвышаўся над другімі, найбольш часу праводзіў сярод сваіх салдат, дзе б яны не знаходзіліся, ці ў час абучэння, ці на фронце. І за гэта яго любілі.

Памяць пра генерала Аляксандра Вашкевіча свята захоўваецца ў баявой традыцыі Войска Польскага. Яго імем назвалі вышэйшую афіцэрскую аўтамабільную школу ў Піле, яго імя прысвоена таксама Лясному тэхнікуму ў яго роднай Белавежы.

Аповесць пра генерала Вашкевіча з'яўляецца аднначасова расказам пра многіх яго землякоў, якія ў радах II Арміі Войска Польскага грамілі фашыстаў у апошнім перыядзе II сусветнай вайны. З Беластока, з Бельска, Аўгустова і Сямяціч ішлі юнакі ў пятую, восьмую і дзевятую дывізіі. Амаль выключна з беластаччан складалася 9 дывізія пяхоты II Арміі ВП, якая за геройства, праяўленае ў баях за Дрэздэн, атрымала назву „дрэздэнскай“. Некалькі сот дзяўчат з гарадоў і вёсак Беласточчыны пад пастаянным абстрэлам ворага выконвалі абавязкі медыцынскіх сёстраў, радыстак, повараў і прачак. Многія з іх назаўсёды асталіся на берагах Нысы, на лужыцкіх палях пад Дрэзданам і ў лясах Саксоніі.

**Кшыштоф Вуйтовіч**

## З РАЗБУДЖАНАЙ ГРАМАДЫ

## СЯРГЕЙ МАРТЫНОВІЧ



Цяпер ён заслужаны пенсіянер. Калі аднак, арганізавалася Беларуская сялянска-рабочая грамада, Сяргею Мартыновічу было ледзь 18 год.

— Якраз вярнуліся мы з бежанцаў, з глыбіні рэвалюцыйнай Расіі. Лозунгі ленінскай бальшавіцкай партыі кшталтавалі нашу юнацкую свядомасць. А тут, у Орлі, давялося жыць нам голадна і холадна. Ды надабавак цярпець панска-паліцэйскі прыгнёт. Быў у нас адзін такі паліцэйскі, Здзярскі называўся. Не дай бог, папасці было яму ў рукі! Мяне бацька ўладкаваў неяк у яўрэйскую шавецкую майстэрню, дзе я цэлымі днямі за марныя грошыкі клаў латкі і прышпільваў падноскі...

А Грамада заклікала да барацьбы за волю для рабочых і за зямлю для сялян. Яе дзеячы, яе газеты і лістоўкі звярталіся да нас на мове, блізкай нам і зразумелай. Я закончыў чатыры класы царскай школы, дык умеў чытаць па-руску і па-беларуску. І сталі мы прыхільнікамі Грамады. Арганізатарам яе гуртка ў Орлі быў, здаецца, **Карп Куптэль** — адважны, баявы камуністычны дзеяч. Памятаю яшчэ **Мікалая Стэльмашука** і **Шымана Пятроўскага,** бо з імі разам ездзіў я на старабярозаўскі грамадаўскі з'езд. Як гэта было? — пытаецеся. Звычайна. Я ўзяў ад бацькі каня, запрог яго ў сані, бо зімою гэта было, і паехалі. А там, у Старым Беразове, сустрэла нас паліцыя і тайнякі з палкамі, з нагайкамі, з шаблямі... Не адзін з нашых заліўся кроўю. А пасля пайшлі арышты. Арыштавалі Куптэля і Пятра Мураўскага ды яшчэ іншых, якіх я ўжо не памятаю. І мой брат Аляксей, які цяпер у Савецкім Саюзе, таксама адсядзеў чатыры гады, аднак ужо не за грамадоўскую дзейнасць, але за КПЗБ. І мяне ён у 1930 годзе ўцягнуў у камуністычную партыю. Моцная ў нас была ячэйка. Толькі ў 1935 годзе павыдаваў нас усіх правакатар Стральчук.

А зараз жа пасля вайны, на пачатку 1945 года Сяргей Мартыновіч стаў членам Польскай рабочай партыі. Быў адным сярод тых радавых камуністаў, якія ажыццяўляюць далёкасяжныя планы партыі. І за гэта дзяржава ўганаравала яго пенсіяй для заслужаных і Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

**В. Р.**
Фота аўтара

## НАЦЫЯНАЛЬНА-МЕНШАСНЫ ДРУК У ПОЛЬШЧЫ

*У Польшчы выходзіць цяпер 6 часопісаў, прызначаных нацыянальным меншасцям: квартальнік „Aušra“ — орган Літоўскага грамадска-культурнага таварыства (друкуецца ў Беластоку, сярэдні аднаразовы тыраж 2,1 тысячы экзэмпляраў); тыднёвік „Dimokratis“ — орган Грамадска-культурнага таварыства грэкаў у Польшчы (Уроцлаў 1,4 тыс. экз.); тыднёвік „Folks-Sztyme“ — орган Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў (Варшава 1,6 тыс. экз.); тыднёвік „Наше Слово“ — орган Украінскага грамадска-культурнага таварыства (Варшава 9,0 тыс. экз.); тыднёвік „Ніва“ — орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства (Беласток 7,5 тыс. экз.); месячнік „Zivot“ — орган Культурнага таварыства чэхаў і славакаў у Польшчы (Варшава 4,0 тыс. экз.).*

*Агульны аднаразовы тыраж гэтай групы часопісаў складае звыш 25 тысяч экземпляраў.*

*Усе гэтыя перыёдыкі выдае Рабочы выдавецкі кааператыў „Друк-кніга-рух“ (RSW „Prasa-Książa-Ruch”).*

(Працяг са стар. 1)




### АДНАЎЛЯЕЦЦА АСАДА

Парадкуецца асада Чаромха, у якой налічваецца больш 10 вуліц і якая з'яўляецца вялікім чыгуначным вузлом. Тут нядаўна праведзена мадэрнізацыя асвятлення вуліц коштам 1 мільёна 600 тысяч злотых. ГС аддаў у карыстанне рэстаран і гандлёвы павільён. У аднаўленні асады Чаромха аказваюць падтрымку чыгуначныя прадпрыемствы і чыгуначныя ўлады.

### ПРАБЛЕМЫ ГМІНЫ

Шмат праблем паасобных вёсак гміны ўжо вырашана. У апошнія два гады пабудаваны крамы ў Вульцы Тэрахоўскай, злеўня малака ў вёсцы Чаромха.

Да нявырашаных пытанняў гміны трэба аднесці загаспадарванне дзяржаўнага фонду зямлі, якога ёсць тут больш 700 га. Але ёсць ужо належная канцэпцыя поўнай ліквідацыі неабсеяных зямельных угоддзяў.

Дарожныя пытанні добра вырашаюцца таму, што непасрэдна звязаны з давозам дзяцей да гміннай школы ў Чаромсе, куды ад восені будуць даязджаць дзеці з усіх вёсак. Існуючая школа будзе разбудавана, на што прызначана 1 мільён 200 тысяч зл. Але ўсё гэта патрабуе яшчэ многа ўвагі і працы.

Існуе далей праблема з лекарам, для якога даўно ўжо падрыхтавана кватэра. Памяшканні для настаўнікаў будуюцца, зроблены ўжо фундаменты. Неабходна будаваць і памяшканне для гміны. Цяперашняе вельмі цеснае. Найбольш дакучлівая справа ў Чаромсе гэта забеспячэнне крамаў прадуктамі і прамысловымі таварамі. Як сцвярджае начальнік гміны, дрэннае забеспячэнне крамаў вынікае з дрэннай арганізацыі працы ГС у Кляшчэлях.

**М. Хмялеўскі**

## Фэстын у Рыбаках



Сёлетнія беларускія фэстыны прайшлі пад знакам святкавання 30-ай гадавіны перамогі над фашызмам. Апошні ў гэтым годзе фэстын адбыўся 6 ліпеня ў вёсцы Рыбакі (гміна Шымкі). Была гэта першая нядзеля ліпеня, калі вясковае насельніцтва можа адпачыць перад чарговай пільнай працай у полі — перад жнівом. Стаяў цудоўны сонечны дзень. У засені шматгадовых дрэў на маляўнічым беразе ракі Нараў сабралася многа народу. Маладыя і пажылыя жыхары з многіх вёсак Шымкаўскай і Нараўкаўскай гмінаў ахвотна прынялі ўдзел у гэтай урачыстасці.

Народны фэстын у Рыбаках адкрыў адзін з мясцовых арганізатараў, актывіст Беларускага таварыства М. Міруць. З дакладам выступіў старшыня аддзела БГКТ Я. Цялушэцкі, затым з прамовай выступіў першы сакратар гміннага камітэта партыі ў Шымках Я. Азябла.

У мастацкай частцы выступілі: у нацыянальных уборах харавы калектыў з Гарадка і музычна-вакальны калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. На працягу некалькіх гадзін у Рыбаках звінелі песні і лілася мілагучная музыка. Ціхім вечарам моладзь прыйшла патанцаваць пад гукі вайсковага акрестра ў спецыяльна падрыхтаванай для танцаў „зялёнай святліцы“. Народнае гулянне працягвалася ўсю летнюю ноч.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

*Выступае гарадоцкі хор.*

(Працяг са стар. 1)

# ЗА МЁДАМ У ДЗЯДЗЬКІ ІВАНА

ра. Мяне вось яны рэдка джаляць, хіба тады, калі падбіраю мёд, або калі пачынаюць раіцца. Аднак пчаліны яд не шкодны. Ён вельмі памагае на рэўматызм. Можа таму я ніколі не ведаў гэтай хваробы. Пчолак я не баюся. А вось мой сын, Якуб, уцякае ад іх, як ад агню. Таму мы і падзяліліся занияткамі: ён займаецца полем, а я пасекай.

Адно і другое прыносіць Сачкам няддрэнны прыбытак. Дзядзька Іван спадзяецца дабыць у гэтым годзе з кожнага вулея не менш як па 20 кілаграмаў мёду. Лёгка тады палічыць, што з яго пасекі будзе каля 100 000 зл. прыбытку. Толькі навошта лічыць чужыя грошы? Ці не лепш самому падумаць, як у сябе развесці гэтую крыніцу пастаяннага прыбытку? На Беласточчыне існуюць спрыяльныя ўмовы для гадоўлі пчол. Многа тут лесу, гаспадары сеюць рапс, грэчку і другія сельскагаспадарчыя культуры, з якіх пчолы збіраюць нектар. Аб гэтых нашых магчымасцях ужо даўно пранюхалі пчаляры з іншых раёнаў краіны і масава прывозяць сюды на лета свае пасекі. Чаму ж тады не заняцца гэтай справай мясцовым сялянам? На жаль, такіх пчаляроў, як Ян Сачко, сустрэнеш у нас рэдка. Ды і ён не мае каму перадаць сваю пасеку. Кажа, што сын баіцца пчол, а ўнук толькі што закончыў сталярскую школу ў Гайнаўцы і рыхтуецца цяпер да ваеннай службы.

Мёд з'яўляецца вельмі каштоўным прадуктам, які знаходзіць шматбаковае прымяненне. Таму дзяржаўныя ўлады, каб заахвоціць сялян да пчалярства, у гэтым годзе павысілі цану на мёд. Аднак гэта нялёгкая прафесія. Ёй трэба вучыцца. Дык добра было б, каб саюз пчаляроў (бо ёсць такі) супольна з сельскагападарчай службай у гмінах падумалі аб адпаведных курсах. Гэта аплоціцца і сялянам, і дзяржаве.

— З Беластока паведамлялі, — інфармуе аграном Кубаеўскі, — што можна будзе купляць пчаліных матак каўказскай пароды, 400—500 зл. за адну.

— Гэта добрая справа, — гаворыць вопытны пчаляр. — Каб быў я маладшы, абавязкова развёў бы яшчэ адну пасеку каўказскіх пчолак. Яны могуць браць нектар нават з канюшыны, а нашы, мясцовыя пчолкі, гэтага не патрапяць, бо маюць за кароткія носікі. Адзін рой каўказскіх пчол, як гаварылі мне знаёмыя пчаляры, дае ў два разы больш мёду, чым наш.

За 68 гадоў свайго жыцця дзядзька Іван перажыў дзве сусветныя вайны, якія двойчы знішчылі яго пасеку, а ён зноў яе аднавіў. Славіцца ён у наваколлі не толькі пчалярствам. З яго таксама выдатны столяр. Пабудаваў у сваёй вёсцы і ў Орлі, ды і ў іншых вёсках каля 200 дамоў.

**Віктар Рудчык**
фота аўтара



ПІСЬМО ПАКЛІКАЛА У ДАРОГУ

## КАЛІ Б ТОЛЬКІ ДА НАС ПАЗВАНІЛІ...

Сваёй праблемай зацікавіў нас ветурач з Нараўкі грам. Міраслаў Бароўскі. Электраманцёры з беласточкага ПРІМ (БГ) — Прадпрыемства інсталяцыйна-мантажных работ сельскагаспадарчага будаўніцтва прыехалі падключыць святло звонку агранамоўкі, а затым намагаліся высветліць, чаму не даходзіць электрычны ток да аднае разеткі ў прыватнай кватэры ветурача, якая знаходзіцца ў гэтай жа агранамоўцы. Шукалі прычын, шукалі, разбілі адну сцяну, разбілі другую, пасля, мабыць, не хапіла цярплівасці і... паехалі. Ветурач паведаміў аб гэтым куды трэба, але ніхто не прыехаў. З таго часу прайшло два тыдні. ПРІМ маўчаў, а святла як не было, так не было. Тады грам. М. Бароўскі звярнуўся да нас з просьбай дапамагчы яму. Паехалі мы ў Нараўку, пабывалі ў кватэры, агледзелі. Усё тут быццам спынілася. Не працаваў халадзільнік, а ў ім псавалася мяса і іншыя менш трывалыя прадукты. Немагчыма было глядзець тэлеперадачу, а нават пачытаць газету. Вядома, цёмна было ў кватэры ўжо са змрокам.

Інтэрвеніравалі мы ў кіраўніка аднаго аддзялення ПРІМ-у грам. Бурака. (Дырэктара і яго намесніка ў той дзень мы не засталі). Трапілі аднак на сумленнага і адказнага работніка гэтага прадпрыемства Ён паабяцаў выправіць гэтую загану і слова стрымаў. Ужо на другі дзень пасля нашага ўмяшання работнікі ПРІМ-у паехалі ў нараўкаўскую агранамоўку, знайшлі недаробкі і ўсё выправілі. Ветурач усцешыўся і шчыра падзякаваў нам за хуткую дапамогу.

Нам здаецца, што ў такой паўсядзённай справе не трэба было аж нашай інтэрвенцыі. Гэта павінна было быць выпраўлена адразу пасля тэлефанічнага паведамлення ў справе хібаў у электраўстаноўцы.

Запомніліся нам словы, якія сказаў кіраўнік Бурак. Было гэта ўжо пасля таго, калі даведаліся мы аб тым, як уладкавана справа электраўстаноўкі ў агранамоўцы. Сказаў ён тады: „Навошта ж было ўмешваць у гэтую справу рэдакцыю? Хапіла б толькі, каб да нас пазванілі“. Сапраўды. Толькі паверыць... (ця)

## "БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"



*У катэгорыі сучаснай песні ў групе салістаў трэцяе месца заняў А. Раманюк з Бельска.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

(Працяг са стар. 2)

## БЕЛАРУСКІ СПОРТ

Яшчэ адзін залаты медаль беларускіх алімпійцаў здабыў у Мюнхене вясляр з Рагачова Мікалай Гарбачоў.

Спартсмены Беларусі з году ў год настойліва штурмуюць рэкорды, нарошчваюць дасягненні. Не быў выключэннем у гэтым і 1974 год. 12 спартсменаў заваявалі 18 залатых медаляў на чэмпіянатах свету, звыш 50 сталі чэмпіёнамі СССР.

У дзесятку лаўрэатаў — найбольш папулярных спартсменаў года па ліку набраных ачкоў, увайшлі: Аляксандр Раманькоў, Віктар Сідзяк (фехтаванне), Вольга Корбут (спартыўная гімнастыка), Уладзімір Зубкоў (класічная барацьба), Мікалай Гарбачоў, Леанід Дзеравянка (байдаркі і каноэ), Аляксандр Кедзяраў, Аляксандр Газаў, Віталій Пархімовіч (спартыўная стральба), Яўгеній Гаўрыленка (лёгкая атлетыка).

Калі пералічыць прозвішчы беларускіх спартсменаў з сусветнай славай, дык атрымаем не малы спісак. Вось толькі некаторыя з іх: Аляксандр Мядзведзь (вольная барацьба), Рамуальд Клім (молат), Аляксей Ніканчыкаў (фехтаванне), Уладзіслаў Бялоў (пяціборства), Пархімовіч (стральба), Галубовіч (цяжкая атлетыка), Іткіна (лёгкая атлетыка), Корбут (гімнастыка).

Усё часцей таксама Беларусь становіцца арэнай еўрапейскіх і сусветных спартыўных спаборніцтваў. Слава беларускага спорту расце.

## Алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў

У Шудзялаўскай гміне адбылася алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў. Арганізавала яе гмінная сельскагаспадарчая служба. Удзел прынялі дзяўчаты і хлопцы, якія працуюць на гаспадарцы ў бацькоў. Камісія ў складзе: мгр інж. Францішак Чалпінскі, начальнік гміны — Рыгор Чарневіч, намеснік прэзаса ГС па сельскагаспадарчых справах — Францішак Будроўскі і кіраўнік сельскагаспадарчай службы Шудзялаўскай гміны — Іраіда Гасперчык высока ацанілі ўзровень ведаў удзельнікаў алімпіяды. Найлепшымі аказаліся: Станіслаў Сабалеўскі з Маркавага Вытана, Яўгенія Башко з Баратыншчыны, Веслаў Гудалеўскі з Астроўка. Удзельнікі атрымалі ўзнагароды. Найлепшыя прымуць удзел у далейшых элімінацыях.

**Я. Бандарук**

## Варта падумаць

У полі пачалася цяжкая праца. Жніво! Ёсць старэйшыя, а часта і старыя сяляне, якім цяжка выходзіць у поле, або і ўвогуле не могуць працаваць. Варта, каб ім памаглі маладыя — вучні, студэнты. Павінны заняцца гэтым маладзёжныя арганізацыі.

**М. Панфілюк**

## Галадоўская школа

Галадоўская школа арганізавалася ў 1907 годзе. Пасля вайны школа змяшчалася ў будынку з 1907 года і на прыватнай кватэры. Потым на школу прызначылі яшчэ будынак грамадскай рады. У галадоўскай школе вучыліся дзеці з Галадоў і блізкіх Агароднікаў. Васьмікласная школа ў Галадах закончыла ў гэтым годзе сваю гісторыю. Цяпер старэйшыя вучні будуць ездзіць у Бельск, а малыя, да чацвертага класа — будуць вучыцца на месцы. Але і гэтак будзе толькі 4 гады. Потым зусім у Галадах не будзе школы. Галадоўская моладзь думае пасля адзін школьны будынак узяць на клуб.

**Валянцін Анапюк**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XV

**Фальклорныя творы.** Разглянем два апошнія творы пісьменніка, якія сваёй стылістыкай, праблематыкай, духам звязаны з беларускім фальклорам. Гэта „Казка“ і „Мяцеліца“. Першы з гэтых твораў можам паставіць у адзін рад з вядомымі нам ужо баладамі „Канец Паўлючонка“ і „Варажба“. „Казка“ так, як і тыя творы, мае акрэсленую фабулу. У творы выступае завязка, кульмінацыя, развязка. Гэтыя ўласцівасці як бы аддаляюць „Казку“ ад лірыкі і набліжаюць да эпікі. Можна было б умоўна назваць „Казку“ вершаванай навелай, але больш правільна было б залічыць яе да віду балады. Зрэшты, навела і балада маюць супольныя рысы: незвычайнасць здарэння, унутраны драматызм, хуткі ход падзей, нечаканае заканчэнне. Усё гэта ёсць у „Казцы“.

Істота гэтага твора вынікае са старых народных вераванняў, з пераканання аб існаванні фантастычных, сатанічных істот і аб іх кантактах з людзьмі. Змест „Казкі“ вельмі просты. У часе начной буры ў вакне паяўляецца прывід дзяўчыны. Зваблены гэтым прывідам хлапец выходзіць з хаты і, убачыўшы дзяўчыну, сядае побач яе. Маладыя пачынаюць абнімацца і цалавацца. Праз хвіліну дзяўчына прападае, але яе вобраз знявольвае хлапца назаўсёды.

Уся істота ў тым, што была гэта ведзьма, увасобленая ў вобраз дзяўчыны. У гэтым якраз і праяўляецца сувязь твора з фальклорам, з народнымі ўяўленнямі, з верай у тое, што на гэтым свеце ўсё магчымае, што лёс чалавека залежыць не толькі ад яго, але і ад наднатуральных сіл, пазнаць істоту якіх чалавек не ў стане. Ірацыяналізм — рыса, супольная для людзей, пазбаўленых якой-колечы адукацыі, і для асоб, якія зглыбілі тайны навукі. І ў адным і ў другім паяўляецца пераканание аб бяссільнасці чалавечага розуму ў пазнанні свету да канца, у пазнанні абсалютным. Вера чалавека ў ірацыянальныя сілы вынікае з бязвер'я ў сябе. І тут цёмны, першабытны чалавек сустракаецца з паэтам. Паяўляюцца ў іх супольныя сумненні і перакананні. Зразумела, што сказанага нельга разумець упрошчана. Са сказанага не вынікае, што Гарун верыў у існаванне ведзьмы ці чорта. Ірацыяналізм мае тут больш шырокі план, больш складаны характар.

Апошні фальклорны твор Гаруна называецца „Мяцеліца“. Вось яго тэкст:

Ой спалеце, перуны,
Майго Янку, бо дурны!
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!

Я казала, дый ці раз:
„Прысылай сватоў да нас;
Татка добры, ён аддасць,
У пасаг цялушку дасць“.

А той Янка, той благі,
Усё смяецца — „гі-гі-гі“.
Да таго ж часамі кпіць:
„Ну, чаго ж табе карціць?“

Ой, пралецеся, дажджы,
А ты, Яначка, пажджы:
Учыню табе бяду, —
За нікога не пайду!

Дзіўны загаловак твора. Чаму „Мяцеліца“? Аб ніякім ветры няма гутаркі ў тэксце верша, дык чаму мяцеліцу вынес аўтар у загаловак твора? Праўдападобна, у некаторых раёнах Беларусі падчас танца званага „Мяцеліцай“, выконваліся песенныя куплеты. Матыў такога куплету мог быць выкарыстаны Гаруном пры напісанні твора. Аб сувязі тэксту „Мяцеліцы“ з народным шанцам з песняй можа сведчыць яго рэгулярнасць, меладыйнасць і рытмічнасць.

Канчаючы разважанні аб фальклорных творах Гаруна, варта яшчэ раз падкрэсліць, што найбольш характэрныя іх рысы праяўляюцца ў іх фабулярнай будове, у апавяданні аб нейкім акрэсленым здарэнні, у наяўнасці гумарыстычнага элементу, у частым ужыванні дыялогу, у выступленні фантастыкі, у спалучэнні рацыянальнага і ірацыянальнага.

Многія нашаніўцы — Багдановіч, Купала, Бядуля праграмна ўводзілі ў сваю творчасць фальклорныя матывы. Праўдападобна, Гарун у гэтай галіне не меў дакладна акрэсленай праграмы, аднак свядома карыстаўся фальклорам пры напісанні многіх сваіх твораў і, такім чынам, даваў яму ранг грамадзянства ў беларускай літаратуры.

 

# РАСЦЕ І СЛАВІЦЦА МОЙ ЛІЦЭЙ!

Вучоба ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання дазволіла мне па-новаму глянуць на „Ніву“. Пачала я чытаць артыкулы пра сваю школу, пісаныя маімі старэйшымі сябрамі, і ў духу зайздросціла ім, што я не магу так, бо я яшчэ заслаба ведала мову. І толькі цяпер вось адважылася і вельмі хачу навязаць з рэдакцыяй сувязь. Рашыцца на гэты крок памог мне выдатны выхаваўца моладзі і дырэктар нашага ліцэя — Аляксей Карпюк. Думаю, што мне ўдасца падтрымаць традыцыю школы, вучні якой так часта дзеляцца з „Нівай“ сваімі радасцямі і дасягненнямі.

У апошнія гады ўсё больш гаворыцца пра дыдактычна-выхаваўчыя дасягненні Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім, пра вялікі вопыт і веды нашых педагогаў, пра десягненні выпускнікоў ліцэя і пра іх малодшых калег, якія ў ліцэі вучацца. Сапраўды ёсць чым пахваліцца!

**У гэтым годзе ўпершыню ў гісторыі нашай школы да матуры прыступілі ўсе вучні чацвёртых класаў — 101 чалавек. З іх аж 99 атрымалі атэстаты сталасці, папулярна званыя матуральнымі пасведчаннямі! Б. Гардзеюк, М. Рудкоўска і Б. Ігнатовіч атрымалі індэксы. 79 матурыстаў прыступіла да экзаменаў у вышэйшыя школы, а ўсе іншыя выбралі паліцэальныя школы. Гэта вялікае дасягненне і настаўнікаў, і вучняў. Далейшы лёс выпускнікоў нашага ліцэя цікавіць даслоўна ўсіх. І настаўнікі, і вучні перажывалі экзамены нашых выпускнікоў і жадалі, каб выявілася сапраўдная вартасць нашай школы. Аб выніках экзаменаў у вышэйшыя школы нашых выпускнікоў напішам пасля, як гэтыя вынікі будуць дакладна вядомыя.**

Думаю, што і вучні цяперашніх класаў I, II, III, IV таксама не падвядуць і ў будучыні стануць да змагання ў вышэйшыя школы і абароняць гонар школы. Дзеля гэтага і настаўнікі працуюць вельмі многа. Хочуць яны як найбольш ведаў перадаць сваім вучням і ў адпаведна падрыхтаваных класа-кабінетах. Таму ў апошні час змяніў свой выгляд кабінет матэматыкі, польскай мовы, рускай мовы. Прыгожая сучасная мэбля цяпер у класах. Урокі часта вядуцца з магнетафонам і фільмам. Моладзь адплачвае сваім выхаваўцам добрымі вынікамі ў вучобе. А яны сапраўды вартыя ўвагі. У гэтым годзе ў наступны клас ва ўсёй школе ў нас не перайшло толькі трое вучняў з 354, калі тры гады таму не перайшоўшых было аж 44. Прыгожы плён працы педагогаў нашай школы і самой моладзі!



*Заняткі па польскай мове ў беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім. Вядзе мгр Галіна Карпюк — сёлетні лаўрэат узнагароды I ступені Міністэрства асветы і выхавання.*

Праца настаўнікаў цэніцца. Пра гэта сведчаць шматлікія ўзнагароды настаўнікам, якія прызнае Міністэрства асветы і выхавання. Між іншым, у апошнім школьным годзе ўзнагароду I ступені атрымалі нашы настаўнікі — праф. Г. Карпюк і праф. Л. Валасовіч. Мы — вучні рады поспехам нашых настаўнікаў і цешымся разам з імі. Таму і атмасфера ў нашым ліцэі цёплая. Мы ж адна вялікая сям'я і аж верыць не хочацца, што ўжо праз пару год з гэтай школай будуць злучаць нас толькі ўспаміны...

**Крыстына Бабулевіч**




Жыхары Белавежы паспелі ўжо прывыкнуць да таго, што кожную восень збіраюцца тут мастакі не толькі з усяе Польшчы, але і з розных іншых краін свету. Прыязджаюць яны сюды, каб дыхнуць паветрам Белавежы, каб убачыць наяву першабытную прыроду, каб зачарпнуць творчага натхнення з асенняга колеру дубоў і маестатычнага спакою пушчы, парушаемага толькі ад часу да часу ровам зуброў. А ці ж многа ўжо такіх месц засталося ў Еўропе?.. Дык едуць сюды мастакі заўсёды з вялікай ахвотай.

У гэтым годзе Белавежа ўпершыню гасціць мастакоў у тры пары года: вясной, восенню і зімой.

І вось закончыўся першы веснавы пленер, у якім удзельнічала 10 чалавек. Памыляўся той, хто думаў, што карціны, якія намалююць тут у чэрвеньскім сонцы мастакі, будуць сонечныя, прамяністыя, багатыя колерамі вясёлкі. Вясна, відаць, менш, чым восень спрыяе радаснаму натхненню (можа духата, можа камары), і карціны большасці мастакоў атрымаліся цёмныя і панурыя (А. Фалат з Варшавы, А. Хароцей з Беластока і інш.).

Выключэннем, бадай, былі б толькі карціны М. Валкавыцкага і Е. Лянгевіча з Беластока. Мікалай Валкавыцкі намаляваў пяць карцін. Вось дзе цудоўная, непаўторная гама колераў вясны ў Белавежы! Ад жоўці, зелені, праз чырвань — аж да бардовага, фіялетавага і цёмнасіняга! Відаць, што яму, белавежцу ад нараджэння, як нікому іншаму, удалося адчуць і перанесці на палатно ўсю свежасць і самабытнасць веснавой Белавежы. Зрэшты, заўсёды быў дасканалым каларыстам.

Прыемную неспадзеўку зрабіў Е. Лянгевіч. На гэтых карцінах цяжка пазнаць яго пэндзаль, пэндзаль мастака-абстракцыяніста. Карціны амаль рэалістычныя. Вясковыя хаты, млын, карова. Усё ў цудоўных светлых, зялёна-жоўтых колерах. Дыхае з іх нейкай рунню, нечым раннім і свежым, сонцам.

Верны сабе застаўся А. Вэльс з Беластока, які адлюстраваў на палатне тыповы веснавы пейзаж у пастэлевых, спакойных колерах.

І гэта бадай, было б усё. Шкада, што так мала веснавых, аптымістычных настрояў адлюстравана ў карцінах удзельнікаў апошняга пленеру ў Белавежы. Кругом жа было столькі зелені, жоўці, фіялету...

Зрэшты, і пленер жа быў разложаны на тры часткі з той мэтай, каб увесці новыя элементы і настроі ў творчасць мастакоў. Дык ці здаў ён экзамен?

**А. Чэчуга**

Фота **З. Лянкевіча**



**Ежы Лянгевіч ля карцін, намаляваных вясною ў Белавежы.**

## ФАЛЬКЛОР




*Там на выгоні ходілі коні —*
*ўсе ў жэліезных путах.*
*Ой, коб жэ нэ ты, сэрцэ-діеўчыно*
*то й нэ быў бы я й тута.*
*Біежыт конічок і з Украіны,*
*шчэ й копытамі крэшэ,*
*за ім діеўчына чорнобрывая*
*русу косоньку чэшэ,*
*за ім діеўчына чорнобрывая*
*русу косоньку чэшэ.*

**Ад Настасіі Паўлючук, 1905 года нараджэння, і Марыі Паўлючук, 1906 года нараджэння, вёска Цялушкі Заблудаўскай гміны, запісаў 31 студзеня 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.**

## На гайнаўскім рынку

За больш, як мільён злотых пабудаваны быў у Гайнаўцы новы рынак. Ён адкрыты адзін раз у тыдзень, у сераду. Збіраецца тады тут народ з усёй ваколіцы. Рынак абгароджаны вакол, ёсць сталы, на якіх раскладаюцца тавары. На заходнім баку розныя гандляры паставілі каля плоту свае будкі, такія брыдкія, што горшых і зрабіць нельга было. А на гайнаўскі рынак з'язджаюцца людзі здалёк, нават замежныя госці. Якое ж ураженне вывозяць яны з Гайнаўкі?!

Гарадское прадпрыемства камунальнай гаспадаркі павінна навесці тут парадак. Будкі-стрэхі трэба разваліць і пабудаваць такія, як з паўднёвага боку рынку.

**Раса**

## Прыгожы павільён

Арлянскі ГС з уласных сродкаў пабудаваў у Орлі гандлёвы павільён. Ён абшырны, густоўнай архітэктуры. Прадаецца ў ім абутак, адзежа і галантарэя.

**Іван Кірызюк**

ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСЫВАЕ „НІВЫ“



ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ПЁТР СЕЛЬВЯСЮК

Земляроб Пётр Сельвясюк — адзін з перадавых гаспадароў у Чыжоўскай гміне. Жыве ён у пачатку вёскі Мора. Заканчвае пабудову вілы, якая здалёк кідаецца ў вока кожнаму праходжаму ці праезджаму. Апрача таго, сельскагаспадарчыя будынкі Пятра Сельвясюка дастаткова прасторныя, дагледжаныя. У хаце і на панадворку відаць дастатак і акуратнасць. Гаспадар паклапаціўся пра ўласныя сельскагаспадарчыя машыны, каб аблегчыць сабе работу. Працы на 17-гектаровай гаспадарцы нямала. Таму збірае ўраджай збожжавых культур з плошчы 12 гектараў зямельных угоддзяў пры дапамозе дзвюх уласных жняярак, траву косіць уласнай касілкай.

Вопытны шматгадовы гаспадар з Мора сее зараз 1,5 га рапсу (рапаку), які дае не малы даход. У яго 4 дойныя каровы і пару дзесяткаў свіней. Намагаецца дабіцца яшчэ лепшых поспехаў у жывёлагадоўлі. Дзяржаве П. Сельвясюк прадае больш 10 тысяч літраў малака, 9000 кілаграмаў збожжа і больш 1000 кілаграмаў мяса ў год. (ця)



 

# ТРЫБУНА чытачоў




### УСПАМІНЫ

*Мая мілая вёска,*
*Мая кветка, сябра дарагі,*
*Цвіці прыгажэй і будзь*
*заўсёды жывой у душы маёй!*
*Я цябе не забуду ніколі,*
*Я тут навучылася роднай простай мовы.*

**Аня Білеўская**

### ВЁСКА ДАВІДАВІЧЫ

У прыгожым месцы мая вёска ляжыць —
Навокал яе зялёны лес шуміць,
Удалі ручэй Рудня бяжыць,
На лузе грамадка буслоў гаманіць.

Вясной убрана кветкамі калін,
Летам пакрыта зеленню галін.
Восень каўрамі лісцяў прыбярэ,
Зіма марозам серабрыстым аснуе.

Хоць наша вёсачка малая,
Яна майму сэрцу дарагая.
Калі малога і старога тут спытаць —
„У нас найлепш", — адкажа,
няцяжка адгадаць.

**Ірына Грыгарук**

### МОЙ КРАЙ

*Люблю бары я і лясы,*
*Дзе весела вясною.*
*Люблю раўніны і палі*
*Са зжатай збажынаю.*

*Як люба рана глянуць праз акно,*
*Убачыць родны край.*
*І весяліцца ранняю вясной,*
*У паходзе йсці ў Першамай.*

**Валянцін Анапюк**

### НЕ ЗАБУДУ

Не забуду ніколі я краю,
Дзе шэпчуцца з ветрам таполі.
Шум нашага роднага гаю
Я не забуду ніколі.

Калі б і прыйшлося расстацца
З табой, родна, міла зямля,
Не зможа абыякавай стацца
Заліўная трэль салаўя.

Са мной ты ў думках заўсёды
Будзеш на кожным шляху.
Прыгажосці роднай прыроды
Ніколі забыць не змагу.

**Зарніца**

нік. Мільготкая іскрынка праплыла ў цемры і, толькі калі немец падняў яе ў кулаку пад самую столь, трошкі асвяціла цьмяны кавалак бетону.

Слабенькае святло хліпка блукала па столі, два твары напружана ўзіраліся ўгору. Валока напяўся — зломак кратаўся. Немец свяціў адной рукой, а другой таксама ўпёрся ў край гэтае вывараціны.

— Ахтунг! Памалё! Малё трэба, Іван, — засцярожліва сказаў ён, і баец пачуў яго цёплае дыханне ля вуха. Там, ззаду, за спіной, вісеў яго аўтамат, які лёгка можна было ўхапіць, але Валока ўжо не звяртаў на гэта ўвагі.

— Што там „ахтунг!" Ану, дужэй. Раз. два, узялі!

Шырока расставіўшы ногі, яны ўперліся, Валока папіхаў зломак у адзін бок, у другі, той яўна паддаваўся іхняе сіле. Тады баец напяўся яшчэ, і зломак зрабіў шырэйшы ход туды і назад. Здавалася, у гэты раз яны сапраўды знайшлі выйсце. Валока аж акрыяў духам і, змораны, сабраў у сабе рэшту сіл. Зломак паддаваўся, вось-вось павінен быў выпасці, як раптам немец засцярожліва ўскрыкнуў, запальнічка ўраз пагасла, і нейкі жахлівы цяжар, праваўшыся, рухнуў на Валоку. Ён і не ўцяміў нават, што сталася, уваччу бліснула аранжавая зарніца, і страшны боль у галаве пагасіў адчуванне.

(Працяг будзе)

### АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ У ГМІНЕ ОРЛЯ

У Орлі адбылося пасяджэнне гміннага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Было на ім ацэнена выкананне плана па сельскагаспадарчай прадукцыі ў гміне Орля за першае паўгоддзе 1975 года. Інфармацыю на гэтую тэму прадставіў начальнік гміны Орля Пётр Хмялеўскі. План гміна выканала паспяхова.

Аб забеспячэнні арлянскіх сёлаў неабходнымі спажывецкімі і прамысловымі таварамі гаварыў Мікалай Ярымовіч — прэзас ГС. На жніва ГС запэўніў добрую дастаўку напіткаў і спажывецкіх прадуктаў. Мяса з арлянскай мясной будзе прадавацца ў мясцовых сельскіх крамах.

У сваю чаргу гмінны сакратар ПАРП Яўгені Леўчук прадставіў дзейнасць гміннага камітэта партыі і падставовых партарганізацый у сёлах у першым паўгоддзі.

**Іван Кірызюк**

## Да жніў

Дажніўны кантроль, праведзены ў спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Шудзялаве з сядзібай у Паўночным Востраве, паказаў, што ў гэтым годзе машыны лепш падрыхтаваны да жніва. СКР цяпер можа даць больш камбайнаў на палі індывідуальных гаспадароў, бо амаль уся зямля сельскагаспадарчых гурткоў перайшла ў рукі ВПГР у Крынках.

Кантроль паказаў і добрае забеспячэнне крамаў прадметамі і часткамі, патрэбнымі ў час жніў, як шнуркі для снопавязалак, заменныя часткі да машын. Адно, што з прадуктамі ў крамах не надта. Няма аранжады, кансерваў рыбных мала, а мясных, дык як на лякарства.

**Т. К.**

## З Бельска найлепшыя

Закончылася спаборніцтва паміж прадпрыемствамі інсемінацыі і конкурс на найлепшага інсемінатара ў 1974 годзе для ваяводстваў Беластоцкага, Сувальскага і Ломжынскага.

Першае месца заняў калектыў Дзяржаўнага прадпрыемства інсемінацыі ў Бельску Падляшскім, другое — прадпрыемства ў Алецку, трэцяе — Ваяводскае дзяржаўнае прадпрыемства інсемінацыі ў Беластоку.

### НА ЭКСКУРСІЮ ПА КРАІНЕ




Гурток ПТТК „Калеяж" у Гайнаўцы працуе добра. Турыстычным арганізатарам у гуртку з'яўляецца Ніна Сідарук.

У канцы чэрвеня таксама адбылася тыднёвая экскурсія працаўнікоў станцыі ПКП Гайнаўка шляхам Люблін — Замасць — Чорны Дунаец — Кракаў — Закапанэ. Вельмі спадабаўся сплыў па Дунайцы. Пасылаю з яго здымак, калі трэба, выкарыстайце ў „Ніве".

Удзельнікі экскурсіі прынялі ўдзел у працы пры адбудове замка ў Замосці.

**Раса**

## Камедыя са святлом

Ужо ў многіх гаспадароў у Чыжах праведзена трохфазная электрычная сіла, з якой бяруць ток электрычныя маторы. На жаль, найгоршае здараецца ў гаспадароў, калі сапсуецца адна фаза. Большасць гаспадароў ведае, што ёсць магчымасць самім зрабіць святло ў сваёй хаце на адзін вечар, або нават на некалькі дзён, да часу, пакуль манцёры не направяць сапсаванай фазы. Зрабіць святло вельмі проста. Трэба толькі перацягнуць каблік ад адпаведнага корка ў лічніку сілы да плюсавага корка ў другім лічніку хатняга асвятлення такім спосабам, каб ток быў толькі ў сваёй хаце, а не ішоў па дратах да суседзяў, тады не пашкодзіць ён сапсаванай фазе, калі яе направяць. Аднак у вёсцы заўсёды знойдзецца чудак, нявопытны ў гэтай справе, які зробіць проста камедыю, што ўсюды будзе святло, а за вечар лічнік накруціць яму сто кілават. Гэты спосаб вельмі небяспечны, таму што такое святло ўтрымліваецца ў вёсцы некалькі дзён, і тады пачынаецца непрыемная „полька". Калі каму трэба нешта рабіць маторам, дык ён не слухаецца, толькі гудзе і можа здарыцца, што згарыць у сярэдзіне ўзваенне. Праверыўшы кантролькай ток на ўсіх трох фазах, пачынаюць шукаць прычын у злончах і маторах, не ведаючы зусім пра такую камедыю, што тры фазы ўмоўна абазначаны літарамі R.T.S. з сапсаванай фазай S., дык выйдуць тут камбінацыі R.T.T. або R.R.T. А манцёрам, направляючым на трансфарматары сапсаваную фазу, перагараюць коркі і не раз даводзіцца шукаць па вёсцы таго, хто зрабіў гэтую камедыю, ды ўкруціў яшчэ ў лічнік моцныя неадпаведныя коркі.

**Я. М.**

## Крама ў Грэдалях

Кіраўніком крамы ў Грэдалях з'яўляецца выпускніца гандлёвай школы ў Бельску Падляшскім — Анна Ігнацюк. Ветлівая і добрая, ведае свае абавязкі. У краме чыста, тавары эстэтычна пакладзены на полках. Усё тут на сваім месцы, хоць памяшканне крамы цеснае, а тавары розныя. Анна Ігнацюк дакладна інфармуе людзей, якія тавары атрымлівае і што мае. Працуе без спазненняў, краму адкрывае рана і пасля поўдня — тады, як выгадна людзям.

**Восень**

## У залёнай вёсцы Ліпіны

На ўскраіне Белавежскай пушчы з заходняга яе боку разлажылася сваім багаццем вёска Ліпіны. Невялікая гэта вёска — каля 70 дамоў. Ніхто з жыхароў Ліпін 30 год таму назад не думаў, што зноў будзе тут жыць.

У час вайны, за дапамогу партызанам, усіх жыхароў вёскі немцы вывезлі ў Дубіны, а вёску пусцілі з дымам, забараняючы пад пагрозай смерці нават прыходзіць на папялішчы.

Ліпінцы перажылі ўсе зняважі і здзекі і ў першы дзень вызвалення — 18 ліпеня 1944 г. грамадой вярнуліся на сваё месца. Цяжка апісаць, якія цяжкасці перажывалі людзі, не маючы ані кала, ані двара. Дзякуючы суседству пушчы, памагаючы адзін другому, хто канём, хто на ўласных плячах цягнулі ліпінцы будаўнічы матэрыял. За некалькі год залячылі яны раны вайны.

Сёння вёска Ліпіны выглядае вельмі прыгожа. Вуліца брукаваная і асветленая, палавіна вёскі мае мураваныя дамы з усімі выгадамі. Моладзь зімой і восенню вольны час праводзіць у дамах культуры і святліцах Гайнаўкі, а летам арганізуе гульні на свежым паветры.

Кожны год на тры дні Тройцы з'язджаецца ў Ліпіны моладзь з усёй ваколіцы і горада Гайнаўкі. Найбольшае свята бывае на трэці дзень Тройцы. У гэты дзень жыхары вёскі святкуюць перамогу над фашызмам.

**Раса**

## Новыя прыпынкі

Ва ўсіх вёсках, якія прылягаюць да шашы Гайнаўка — Кляшчэлі, будуюцца новыя аўтобусныя прыпынкі. Гэта зусім іншыя прыпынкі, чым былі дагэтуль. Цяперашнія — прыгожыя, шкляныя. Робяць іх з гатовых элементаў, і таму праца ідзе хутка і спраўна. Працуе калектыў рабочых з ПКС-у.

**М. Панфілюк**

### ГУРТКІ ЗАЦІКАЎЛЕННЯ Ў ГАРАДОЦКІМ ГОК-у

У доме культуры ў Гарадку працуюць розныя гурткі зацікаўлення, між іншым, музычны, вакальны, драматычны, жывапісу, фатаграфічны, шахматны, настольнага тэніса. Удзел у гэтых гуртках прымае ў большасці моладзь, якой у Гарадку многа.

У доме культуры арганізуюцца таксама вечарыны з рознымі конкурсамі. Гарадоцкі дом культуры імя Кастуся Каліноўскага служыць усёй гміне, а яго галоўным заданнем з'яўляецца развіццё сацыялістычнай культуры.

**Юрка Паплаўскі**

## Навошта псаваць?

Штодзень збіраецца многа пасажыраў на аўтобусных прыпынках па дарозе з Гайнаўкі ў Бельск Падляшскі. На прыпынку можна схавацца ад дажджу, ветру, буры, а зімой ад завірухі. Некаторыя аднак прыпынкі, што каля вёсак Старое Беразова, Шчыты, Збуч, маюць дзіркі ў вокнах і сценах. Нехта каменнямі павыбіваў іх. У галаву так і ціснецца пытанне: навошта і каму гэта патрэбна? Гэтыя ж прыпынкі шмат каштавалі, цяпер зноў трэба іх рамантаваць, гэта зноў будзе каштаваць. Рамонт жа тут неабходны. Па гэтай шашы едуць аўтобусы з усяе краіны. Многа сустрэнеш аўтобусаў з замежнымі турыстамі, якія едуць пазнаёміцца з Белавежскай пушчай. Што падумаюць людзі, гледзячы на гэткія прыпынкі? Апекавацца прыпынкамі павінны жыхары вёсак, ля якіх прыпынкі стаяць.

**Мікалай Няплоха**

## Свярбяць кулакі

Вёска Новакорнін, як многа іншых на Гайнаўшчыне, вялікая, прыгожая. Трудалюбівыя сяляне працуюць у поце чала, і вёска з кожным годам расквітае і багацее. Ды не ва ўсіх дамах радасць аднолькавая. Ёсць адзінкі, як С. М. сын К., які занадта любіць выпіць. Старая, як свет, дурная справа — п'янства, а колькі бяды-гора ў сям'і! Тым больш, калі п'ецца не адно піўцо, а нават такое, што не для піцця людзям служыць. Гэты чалавек п'е многа, прыходзіць дахаты і б'е родную жонку, нямала і дзецям дастаецца. У краме прадаўшчык не трымаецца правіла „п'яным алкаголь не прадаецца". У гэтай краме можаш выпіць мора. Нават калі на нагах ледзьве стаіш. Вядома, прадаўшчыку патрэбен абарот... Якім коштам, аднак, якімі грашыма?

**Крыніца**

## Чаму так?

У кожны панядзелак ці дзень пасля святаў у крамах Чаромхаўскай гміны прадаецца чэрствы хлеб. У Кляшчэлях жа ў тыя дні праўленне кляшчэлеўскага ГС-у вырашыла, што чаромхаўскім чыгуначнікам лепшы будзе хлеб чэрствы?

І яшчэ адна справа. Чаму кляшчэлеўская пякарня не выпрабляе звычайных булачак і дрожджавага пірага? Калі ўпершыню паказаўся гэтакі пірог у спажывецкім кіёску на станцыі, дык я думаў, што жанчыны на маіх вачах пасварацца з-за яго. А булачак звычайных, на жаль, не бачым у Чаромсе. У Кляшчэлях, кажуць, усяго хапае.

Спадзяемся, што праўленне кляшчэлеўскага ГС-у высветліць нам гэтую справу.

**Мацейка**

P.S. Дагэтуль кляшчэлеўскі ГС не адказаў (апрача адказаў былога ПЗГС у Гайнаўцы) на ніводную крытыку для рэдакцыі „Нівы". Чаму? Варта прыпомніць правілы дзяржаўнага закона з 14 чэрвеня 1960 года (Dz. U. Nr 330, poz. 168). Арт. 32 § 1 і 33 § 1 гэтага закона ясна вырашае праблему адказаў на пісьмы. Адміністрацыя кляшчэлеўскага ГС-у павінна таксама падпарадкоўвацца гэтым законам.

**М-ка**

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Дзіўныя зладзеі

Дзяжуру я на завадской прахадной. Бачу — маляр Лыбін ідзе. Нясе нешта. Здалёку не разберу: пад старасць вочы падводзяць.

Падыходзіць да прахадной. Цікаўлюся:

— Што гэта ты дадому нясеш?

Уводзіць у курс:

— Гэта, дзед Мацвей, бялілы такія, цынкавыя. Збіраюся рабіць рамонт у сваёй хаце.

— Колькі заплаціў? — пытаюся.

— Ямчэ чаго, — адказвае. — Дармавыя. Вось гэтага мяшочка на ўвесь рамонт хопіць. Яшчэ і застанецца.

Прапусціў Лыбіна. Зноў сяджу ў адзіноце.

Неўзабаве чую — падазроны шум на тэрыторыі. Такое ўражанне, быццам нехта жалезам грукоча. У чым справа, думаю. Насцярожыўся. Ага, з-за бляхарнага цэха токар Гусакоў рухаецца. Дзве рэйкі цягне поцягам у напрамку да прахадной. Затрымаў. Пытаюся:

— Куды рэйкі цягнеш, няўжо на гараж? Здаецца, машыну яшчэ не набыў, далей мапеда пакуль не скокнуў.

Смяецца:

— Разумныя людзі, дзядуля спачатку вуздэчку купляюць, а каня — потым. Угадаў: гараж пачынаю будаваць.

Усхапіўся я, падышоў да акна, гляджу ўслед. Здараванька! Бадай, кілаграмаў пяцьдзесят металу лёгка, нібы гуляючы, па бруку цягне. Пазайздросціў. Зажурыўся крыху: успомніў маладосць сваю незваротную.

Знянацку міма мяне нейкі тып прамчаўся. Я не звярнуў увагі: дробязь нейкую панёс, бо, скажам, са зварачным апаратам... так хутка не пабяжыш.

Адышоў ад акна, прысеў — і як грымнуся на падлогу! Аж у вачах пацямнела. Я адразу здагадаўся: невядомы з маёй табурэткай даў цягу.

Вось так па гарачых слядах у дакладной на імя начальніка аховы пішу тлумачальную запіску.

Стаю — пішу, дзяжурства маё заканчваецца, а тут якраз зменшчык з'явіўся. Паглядзеў вакол, насупіўся.

— Дзе крэсла? — пытаецца незадаволена.

— Толькі што было, — адказваю. — І толькі што адбылося незвычайнае здарэнне: укралі дзяржаўную маёмасць. Усю змену цяпер табе прыйдзецца на нагах стаяць. А што зробіш? На гэтым заводзе, брат, ёсць такія спрытнюгі, проста бяда. За кожным пільнае вока трэба. Зазяваешся на хвілінку — і сядзець ужо няма на чым!

**В. Гілевіч**



— *Мужчыны, мужчыны, мужчыны! Перастаньце ж урэшце гаварыць аб справах у час водпуску!*

# НІЎКА

### ПАРАДУ

Чалавек, які сядзіць у рэстаране, некалькі разоў беспаспяхова намагаецца атрымаць ад афіцыянта шклянку вады. Урэшце, страціўшы надзею, ён звяртаецца да суседа па стале:

— Як вы думаеце, што я павінен зрабіць, каб мне ўсё-такі прынеслі вады?

— Паспрабуйце падпаліць сябе.

### НЕ СТРАШНА

Маленькі хлопчык залез на спінку ложка і цягнецца да паліцы. Маці кажа яму:

— Пятрусь не лезь, а то заб'ешся!

— Нічога, — адказаў малы, — тата яшчэ раз мяне купіць.

## Казёл — моднік

*Сустрэліся сябры-казлы*
*На кірмашы*
*Аднойчы ў свята.*
*Прамэкалі.*
*— Чаго сюды забрыў? —*
*Спытаўся першы,*
*модна-франтаваты.*
*Пазнаць яго*
*Не кожны мог, відаць:*
*Шыкоўны фрак,*
*Манжэты выглядаюць.*
*А што казёл ён, —*
*Толькі барада*
*Нагадвала — у касмылях,*
*рудая.*
*— Па справах я, —*
*Сказаў другі, — блукаю.*
*А ты што робіш тут?..*
*— Мультанчыку шукаю...*
*Жыццём і службай*
*Задаволены сваёй,*
*Жыву ў цяпле,*
*Пакой асобны маю...*
*— Дзе ж служыш?*
*— У цырульні гарадской,*
*На хлеб-тытунь, як кажуць,*
*Зарабляю.*
*— Няўжо швейцарам?*
*— Эх, адсталы ты!*
*Я — манекен,*
*Я — дайца новай моды.*
*Зірні —*
*Хіба не з гэтай бароды*
*Скапіравалі моднікі*
*бароды?*

**Мікола Чарняўскі**

### ЯК ВЫКАРЫСТАЦЬ МУЖА Ў ХАТНЯЙ ГАСПАДАРЦЫ



...Выкінуў усю дурасць з галавы — і яна аказалася парожняй.

...Ён быў доўгаграючым трэнерам.

### ЗАБІЎ БЫ

Прыйшла жонка ад суседкі дамоў і кажа мужу:

— Кастусь пабіў сваю Маню за тое, што сказала яму „брэшаш". А калі б я табе так сказала, што б ты зрабіў?

— Забіў бы!

— Ды брэшаш!

— Вось, ей-богу, забіў бы, — аж падскочыў муж.

### ДАБРАЎСЯ

Прыйшоў дзядзька п'яны дамоў і пачаў стукаць у акно ды гукаць, каб жонка адчыніла. А тая яму:

— Дзе быў, туды ідзі!

Памітусіўся дзядзька на панадворку ды прылёг ля сабачай будкі. А Бобік падскочыў і пачаў вылізваць гаспадара.

— Мая ж ты, душачка, — праслязіўся дзядзька, — казала, што не пусціш, а як выцалоўваеш!

### НІЧОГА ДЗІЎНАГА

Прыйшла бабуля з крамы і кажа да старога:

— Вось у Васілкі дзеці! Паз'язджаліся ўсе. Шануюць старую. А нашы — хоць бы нос калі паказалі.

— Нічога дзіўнага, — адказвае дзядуля. — Васілька напісала, што выйграла на латарэі „Фята".

### КАХАЕ

Гутарка сябровак.

— Як ты думаеш, Роберт мяне кахае?

— Вядома, чаму б табе быць выключэннем?

### ЗРАЗУМЕЎ

— Тут, у вёсцы, — расказвае селянін дачніку, — людзей на раніцах будзіць певень.

— Дасканала! Пастаўце яго, калі ласка, на палавіну восьмай.

### РЭЦЭПТ

— Скажыце, доктар, няўжо гэта сапраўды так шкодна — выпіць кілішак перад ядой?

— Не, але не еще надта часта.

### ВЕДАЛА

Сварыцца муж і жонка:

— Скажы, навошта ты выйшла за мяне замуж?

— Я не ведала, што ты так дурны!

— Гэта хлусня, ты дасканала гэта ведала!

### ДОБРА ПАСНЕДАЎ

Першы: — Ох, і добра ж я паснедаў! — і прытанцоўвае.

Другі: — А што ж ты такое смачнае еў?

Першы: — Дай кавалак хлеба, тады скажу.



— *Вы што, нічога не чулі аб забрудненні вады?*

### НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ГІСТОРЫІ




— *Так крытыкаваць, як вы мяне крытыкавалі на агульным сходзе, можа толькі сапраўдны спецыяліст... Таму назначаю вас сваім намеснікам!*

### ПЕСНІ ПА ЗАКАЗУ

*Па просьбе Анны Шымчук, Іяланты Парфенюк, Яўгеніі Андрэюк з Яцэвіч, Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## POZA SOBĄ NIE WIDZIMY ŚWIATA

**słowa: Andrzej Kuryło**
**muzyka: Andrzej Rutkowski**
**śpiewa: grupa „Ptaki"**

Zagubieni w środku miast
przystajemy goniąc czas
i wystarczy jeden gest
jeden uśmiech, jeden wiersz
kwiaty nabierają barw
jakby im przydano farb
w samym środku wielkich miast
coś się nagle budzi w nas.

Biegniemy beztroscy,
szczęśliwi radośni —
otwarte na oścież jest niebo
Biegniemy ulicą
do nikąd i znikąd
nikogo nie widząc — prócz siebie
Poza sobą, poza nami
nie widzimy świata —
Zakochani, zakochani —
w samym sercu miasta.

Marzą nam się cienie drzew,
głośne echo, cichy szept
zapalone ognie gwiazd
wygaszone światła lamp.
I szumiący obok las
ciepłą ciszą, śpiewem traw
Pośród mijających dni
coś na jawie nam się śni.

Biegniemy beztroscy
szczęśliwi radośni...
w samym sercu miasta.
La, la, la, lala...
Poza sobą, poza nami
nie widzimy świata
Zakochani, zakochani
w samym sercu miasta.

# Курёзы

### ХАГЕНСКАЯ СПРАВА

На вуліцах заходнегерманскіх гарадоў нярэдка можна назіраць, як масіўны „мерседэс" раптам рэзка тармозіць перад пешаходным пераходам, а пашарпаны „фольксваген", які ідзе ім упрыцірку, затармазіць не паспявае. Удар. Скрыгат. Вадзіцелі не пацярпелі. Але карма „мерседэса" вельмі памята, а стары „фольксваген" можна везці на звалку.

Выцам бы звычайнае дарожнае здарэнне. Але не выключана, што абодва „пацярпеўшыя" тым жа вечарам „абмыюць" удалую справу ў рэстаране... Фіктыўныя аварыі сталі адным з самых распаўсюджаных у ФРГ відаў махлярства. Толькі ў адным Хагене банда „аварыйшчыкаў" „нагрэла" мясцовае аддзяленне страхавых таварыстваў на паўтара мільёна марак.

Злонаўмыснікі старанна рыхтуюць свае аперацыі, і выкрыць іх не проста. Таму страхавыя кампаніі арандавалі вялікую электронна-вылічальную машыну і сталі ўводзіць у яе даныя аб усіх аварыях, якія здаліся падазронымі. Электронны аналіз дапамог выкрыць хагенскую банду. На лаўцы падсудных апынулася пяць мясцовых лавачнікаў і паліцэйскі вахмістр, які складаў пратаколы на месцы здарэння.

### ПЕРШАЯ П'ЕСА

Малады драматург прачытаў Бернарду Шоу сваю першую п'есу і спытаў яго думку.

— Такую слабую рэч давалявецца напісаць толькі масцітаму аўтару, — адказаў Шоу.




І атэісты могуць падвесці пад манастыр.